# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

…„Падыймайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



№ 2
(101)

Vilnia, Luty 1937 h. Hod IX.

*HRAMADZIAŃIE!*

*Usie narody i ŭsie klasy i arhanizacyi ŭ sučasnaści za ŭsiakuju canu starajucca mieć svaju presu, svaje časapisy i hazety. Bo tolki svaja presa naležna infarmuje i naležna baronić intaresy tych, ad kaho jana zaležyć.*

*Presa ŭ sučasnaści — heta nerv, biez jakoha ciažka vyabrazić sabie žyćcio. Tym bolš-ža ciažka pradstavić sabie baraćbu za palepšańnie bytu i doli ahulna-narodnaj.*

*Biełarusy musiać mieć svaju niezaležnuju presu! Biełarusy nia mohuć dalej być adstałymi! I dziela hetaha ŭ časie, kali naša presa kolkasna źmianšajecca, našym zadańniem jość, kab prynamsia tyja časapisy, jakija majem, byli naležna redahavanyja, vydavanyja i raspaŭsiudžvanyja. Treba, kab byli jany biez zahany, jak z boku źmiestu, tak i formy, i kab mahli naležna raźvivacca. Dziela asiahnieńnia hetych zadańniaŭ mała achviarnaści niekalkich ideovych asob, ale treba natuhaŭ i starańniaŭ ahulnych.*

*My, biełaruski maładniak, musim sabie pastavić za punkt honaru, kab adziny naš časapis „Šlach Moładzi" byŭ samavystarčalnym, samastojnym i kab užo ŭ naibližejšym časie vychodziŭ abyjmom prynamsia ŭ 24 bačyny. Dziela hetaha treba, kab kožny z čytačoŭ apłačvaŭ akuratna padpisku, raspaŭsiudžvaŭ usiudy „Šlach Moładzi", zdabyvaŭ novych padpiščykaŭ i ŭ mieru sił i zdolnaściaŭ pamahaŭ redakcyi meteryjałami—rukapisami - da druku! Da pracy hetaj zaklikajem usich, kamu darahaja ahulnaja sprava biełaruskaha adradžeńnia i dola biełaruskaj moładzi!*

*Da hetaha numaru „Šlachu Moładzi" dałučajem „Przekazy razrachunkowe." Niachaj-ža kožny pastarajecca apłacić imi naležnuju padpisku, a tych, što heta zrabili, prosim pieradać ich svaim znajomym i zaachvocić ich vypisać svoj biełaruski časapis „Šlach Moładzi."*

*Administracyja „Šlachu Moładzi"*

# Шлях Моладзі

ІЛЮСТРАВАНЫ МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, Люты 1937 г. № 2 (101).


М. МАШАРА

## ЗІМОВАЯ НОЧ

Ноч, як лебедзь белая,
туліцца ля стрэх;
ткуць ёй крылы пэрламі
месяц... зоры... сьнег.

Ноч, як сон, прыгожая
стала пад акном;
зьяе сьцежка кожная
чыстым серабром.

Ноч, як мрыя — дзіўная
ўсьпеніла палі,
і пад белым іняем
гнуцца тапалі.

Ноч, як казка, ціхая
шолахам нясе;
ярка зоры — мніхамі
моляцца красе.

Ноч прыгожай дрэмаю
абняла прастор
і нямой паэмаю
тчэ ў душы узор.

2.II.37.

* * *

Поле маё, поле,
поле над ракой —
мне душу да болю
мучыць твой спакой.

Брыліянты-вочкі
зорак у вышы,
рассевае ночка
жменяй ідучы.

Ціха над абрывам
сьпіць альховы гай,
толькі белым нівам
сьніцца можа май.

Далей там — Таболы,
плямай на сьнягу —
гэтым словам полым
сэрца скалыхнуў.

Бачу бацькі хату,
з вербай пад акном
і здалёк, як брату,
клён мне б'ець паклон.

Клён ты мой вяковы,
раскажы мне клён —
доўга йшчэ над полем
будзе гэты сон?

Быў я там далёка:
да людзей хадзіў,
варажыў у змроку,
пад муром тужыў.

З сумам ў дружбе цеснай
пад віхуры сьвіст
раскідаў я песьні,
як ты медны ліст.

Ды ў меставым моры
пад рытмічны шум —
не раскінуў гора,
не пазбыўся дум.

Ўсьцяж мне сьнілась вёска
плямай няжывой
і над вёскай — ночка,
мёртвы твой спакой.

Клён мой прыдарожны,
поля — вартаўнік —
нешта ты трывожна
галавой панік.

в. Таболы, 7.I.37.

* * *

Choć pozna ŭžo, i vietram hnanyja
Daloka chmary adpłyli,
Mnie śnicca znoŭ daroha znanaja,
Prastor i šeryja pali.

Idu niaraz, byvała, vosieńniu,
Kusty, imšary miž dubraŭ,
A viecier z sonnymi biarozami
Ab niečym viedamym šaptaŭ.

Jašče, jašče raz ahlanułasia,
Chavałaś rodnaje siało,
I tolki pieśnia ŭskałychnułasia
U sercy zvonkaja biaz słoŭ.

Pastuch u poli za aviečkami
Žalejku novuju kruciŭ,
Dy potym siedziačy nad rečkaju
Hraŭ sumny vosieni adpłyŭ.

Ciapier zima, i moža viečaram,
I mo' da poznaje način
Sumuje maci doŭha niečaha
Kudzielu tonka pradučy

A ja... dy nie, kazać nia varta mo'.
Štoś viecier śpieŭ i słovy rvie,
Druhi mo' raz kaliś prypomniu znoŭ
Pra hety zbudžany napieŭ.

Bo śnicca znoŭ daroha znanaja,
Prastor i šeryja pali,
Choć pozna ŭžo, i vietram hnanyja
Daloka chmary adpłyli.

Vilnia, Studzień, 1937.



# Прыкладная праца

У сувязі з ліквідацыяй апошніх беларускіх культурных арганізацыяў: Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і Т-ва Бел. Школы, на першае месца высоўваецца пытаньне: як далей арганізаваць беларускую культурнаасьветную працу. Пытаньне гэта вельмі важнае і над ім трэба затрымацца. Хоць, фактычна, яшчэ ня так даўно справа культурнае працы даволі шырока была абгаворана на бачынах „Шляху Моладзі", ня згрэшым аднак, калі да яе вернемся.

Вось-жа, памінаючы цяпер свае арганізацыі, якіх ня маем і якія ў культурнай працы адыгрывалі найбольшую ролю, ды ня маючы адпаведнай колькасьці сваіх беларускіх школаў, дайшлі мы тады да пераканаўньня, што трэба старацца праводзіць беларускую культурную працу ўсімі магчымымі спосабамі, а між іншым і праз арганізацыі польскія, і хатнім, саматужным, прыватным спосабам, арганізуючы таварыскія гурткі самаасьветы. У працы-ж у гэных гуртках карыстацца беларускімі кніжкамі, школьнымі бел. падручнікамі, часапісамі, каторыя супольна купляць, чытаць, разьбіраць і праз іх пазнаваць праўду, ды йсьці да сьвятла.

З вялікай радасьцю можам ужо падаць да агульнага ведама, што нашыя выснавы і нашыя рады шмат дзе моладзь прыняла да сэрца і энэргічна праводзіць у жыцьцё. Ілюструюць гэта нам многія пісьмы, жаданьні кніжак і вось хоць-бы такая карэспандэнцыя:

„в. Кавалі, М.-Бераставіцкае вол., Горадзенскага пав. Моладзь наша, ня маючы свае беларускае культурна-асьветнае арганізацыі, ня хочучы аставацца ад другіх вёсак, пастанавіла асьветную працу праводзіць саматугам, малымі групкамі і хатнім спосабам. І так у м-цы сьнежні 1936 г., у сувязі з 30-мі ўгодкамі літаратурнае творчасьці Якуба Коласа, ладзілі мы ў чэсьць гэтага нашага слаўнага песьняра прыватныя вечары. На вечарох гэтых чыталі перадусім жыцьцяпіс Я. Коласа з „Хрыстаматыі беларускае літаратуры" І. Дварчаніна, а пасьля дэклямавалі вершы. Атрымаўшы 13 (99) нумар „Шляху Моладзі", мы супольна чыталі артыкулы: „Якуб Колас для моладзі" і „Грамадзкая і літаратурная дзейнасьць Цёткі", тлумачачы яго для дзяўчат. Далей мы чытаем „Шлях Моладзі" ўважна, распрацоўваючы і абгаварваючы друкаваныя ў ім артыкулы і карэспандэнцыі. З прычыны ліквідацыі БІГіК і ТБШ думаем зьбіраць подпісы і пасылаць дамаганьні да Рады Міністраў аб дазвол для поўнай працы абедзьвюм гэтым нашым арганізацыям. Закладаючы таварыскія гурткі самаадукацыі, мы выпісалі большую колькасьць „Першых Зернятак" і „Пішы самадзейна і акцыю вывучэньня свае беларускае граматы праводзім з добрымі вынікамі.

Пры гэтым вядзём мы барацьбу з найгоршым можа нашым ворагам — гарэлкай, — заклікаючы ўсіх да цьвярозасьці. Да гэтай працы заклікаем усю беларускую моладзь, бо гарэлка гэта сапраўды страшэнны вораг кожнага чалавека.

Мусім сьцьвердзіць, што перадусім працу праводзяць хлопцы, — дзяўчаты астаюцца. Але думаем, што яны хутка стануць поруч з намі. — *Кавальчуцкі.*"

Карэспандэнцыя гэта сапраўды гаворыць многа. Карэспандэнцыя гэта практычна паказвае дарогу і спосабы працы ўсёй беларускай моладзі. Ані адыймаць, ані дадаваць да яе нічога бадай ня трэба. Хіба толькі тое, каб прыгожая і прыкладная гэтая праца што-раз глыбей і ўсебакова разьвівалася, каб моладзь наша, вучачыся беларускае граматы, пазнавала свой край, разьвівала любоў да свайго народу, а адначасна вучылася культурна вясьці свае гаспадаркі, каб у нашай, моладзі ў руках замест картаў і кіёў былі бел. кніжкі і газэты. Да такой працы прыступіць трэба ўсім, бяз розьніцы паглядаў і перакананьняў. Бо ня ў тым справа, ці Кавальчукі правыя, а Гароднікі левыя, ці наадварот, а справа ў тым, каб народ наш выходзіў з цемры, пазнаў свае цэннасьці і багацьці, пазнаў людзей і сябе людзям паказваў належна, ды каб мог жыцьцё сваё ўкладаць і вясьці больш культурна. Калі-ж гэта мы асягнем, дык лёгка будзе асягнуць і іншыя, далейшыя і важнейшыя агульна - народныя ідэалы!...

Саматужная беларуская культурная праца будзе адначасна адказам тым, што мрыяць аб асыміляцыі беларускага народу і што запыняюць ягоныя адраджэнскія імкненьні і працу!...

*Я. Н.*

---

*МАКСІМ ТАНК*

## НОЧЧУ...

Ноччу сыры асыпаецца тынк.
Думы як пояс сівых журавоў...
Што-ж не гаворыш, пад шопат сьнягоў,
доля мая чорнабрывая ты?!...

Сьнежнае вецер сыпнуў серабро,
лісьцем сярэбраным вокны заслаў.
Месяца цень, як сьляпая сава,
б'ецца аб хмары зламаным крылом.

Кажаш ты — едзеш на вёску дамоў...
Чую у словах сьцюдзёную шыр,
ночы — цяжкія ад волава сноў.
З вёскі саломянай лепш ня пішы...

На'т і тады, як пачуеш тугу, —
будзеш няраз мо' сярпом яе жаць, —
нават як восені польнай іржа
змые дажджамі вясеньні разгул.

Кожнае слова здалёку баліць,
хоць-бы яго аплялі васількі,
ці нашумелі-б яго трысьнікі
цёплай абмыўшы расою зарніц.

Неспадзявана, прыйдзі, як зара.
Так ты прыходзіць умела калісь...
Што-ж твае вочы імглiста гараць?
Што-ж, пералётная птушка, маўчыш?...

Вільня. 16.II.37.

J. VILKOŬŠČYK

## Mały latun

Matulka miłaja! Ŭžo źmiarkacca stała,
Ty zapali ŭ prypiečku dranku ad vuhla
i siadź kudzielku praści... Ja siadu pobač la ciabie na łavie
i raskažu, jakaja ŭ chłopcaŭ siońniaka była hulnia.
Kab mama bačyła... My siońnia latuna puščali...
Tak płaŭna ŭvierch na nitcy jon išoŭ —
bo vietryk nios jaho vysoka, tak vysoka,
što nam ad radaści až ŭ sercy zamirała kroŭ:
narešcie staŭsia jon nam ledź vidzion dla voka
i tam zavis ŭpadabłočnych abšarach ŭ vyšyni,
dzie ciomna-siniava raskinułaś šyroka
u biezbiarežnaści taje charašyni.
Matulka rodnieńka! Jak ja chacieŭ-by ŭźbicca tak vysoka
i stul zirnuć na inšy śviet, na cud pryrody ŭsiej:
na carstva polusaŭ i šyr paloŭ dalokich,
na cud palarnych hor biaz flory i ludziej —
dzie biełу, jak toj śnieh, miadźviedź pływie na kryhach,
dzie morž-vusač kačajecca ŭ siarebranym śniahu,
dzie čutna śpić ciuleń, ukormleny na rybach,—
zirnuć na kraj fatamorhan i pustyroŭ biezbiarežnych,
dzie kaktusy rastuć siarod razsypčystych piaskoŭ,
dzie doŭhahryvy leŭ pad dziki roŭ drapiežny
pałochaje karavan vytryvałych viarbludoŭ;
chacieŭ-by ja zirnuć na hušč lasoŭ imhlistych,
dzie ludzi biaz zimy ŭ śpiakocie musiać žyć,
dzie papuhaj žyvie, tyhr i zebr pałasisty,
dzie vodzicca udaŭ, ad źmiejaŭ les kišyć,
dzie kraj mimoz i palm, krasujuć archidei,
Vezuvija vulkan, Venecyja, Neapol, i Niceja,
dzie kiparys raście i vinahradny haj...
Puści u latuny mianie, matulka darahaja,
vučyciel-ža kazaŭ, što mnoha ŭžo mnie hod,
mnie ciesna na ziamli, daroha mnie adnaja —
tudy ŭvyš, ŭ prastor, da zor, ŭ palot!

Studzień, 1937.



Najnaviejšy niamiecki hydraplan—samalot, jaki padymajecca da lotu i asiadaje na vadzie.

# Kolki prakuryvajem, prapivajem i što za heta majem

Kureńnie i piććio harełki tak užo uvajšło ŭ naša žyććio, što my navat i nie źviartajem uvahi, jakija jany prynosiać škody. Hutarki ab patrebie baraćby z hetymi błahoćciami dahetul, na žal, pryjmali ŭ nas najčaściej humarystyčnyja formy. Vina tut pieradusim intelihiencyi, bo na vioscy choć manapolka z samahonkaj źbirajuć vialikija zdabyčy, adnak jość užo i pavažnyja natuhi sviatlejšych adzinak pačać naležnuju akcyju za ćviarozaść.

Sprava baraćby z pryvyčkami kureńnia i harełkaj dy inšymi alkaholnymi napitkami nie vyhladaje tak małoj, jak heta časta n m zdajecca. U sapraŭdnaści na jaje daŭno ŭžo źviarnuli ŭvahu badaj ŭsie narody. My-ž biełarusy pavinny da jaje tym bolš pavažna adnosicca, bo my moža najbolš pieražyvajem roznych niahodaŭ i nam najbolš patrebny ćviarozy rozum, zdarovy duch i zdarovaje cieła My tak-ža najmienš možam pazvolić sabie na zbytki. A kureńnie i pjanstva—heta ž i jość zbytak i to nie mały. Vydajom na heta dabravolna sotni, tysiačy i miljony złotaŭ, a za heta nažyvajem sabie chvaroby, rujnujem budučaje pakaleńnie, razam z hetym šyrycca razboj i niazhoda na vioscy, asabliva siarod moładzi i h. d.

Kab nia być hałasłoŭnym, padam kolki cyfraŭ, nad jakimi kožny pavinien zatrymacca. Voś-ža pavodle dannych „Małego Rocznika Statystycznego" ŭ 1934 hodzie ŭ Vilenščynie i Biełastoččynie kožny žychar vypiŭ siarednie 0,67 litra špirtu, u Navahradčynie — 0.51, a na Paleśsi— 0,42. A kolki było jašče samahonki? — Hetaha nichto chiba nia źličyć, jak nia možna źličyć i śloz, što pralili siemji tych haspadaroŭ, jakija za hnańnie siadzieli ŭ vastrohach, abo katorych haspadarki byli rujnavanyja štrafami...

U hetym-ža časie ŭ Vilenščynie siaredńie kožny žychar prakurvaŭ 11,11 zł., u Biełastoččynie — 8,72 zł., na Paleśsi — 6,12 zł. i ŭ Navahradčynie 5,46 zł.

Ciapier, kali my hetyja cyfry jašče źmienšym navat i voźmiem siarednie, što kožny biełarus za hod vypiŭ 0,5 litra (paŭlitra) špirtu, h. zn. prapiŭ 4 zł. i 50 hr. i što prakuryŭ usiaho 5 zł. i 50 hr., to atrymajem, što biez patreby kožny z nas vydaŭ 10 zł. Ahułam-ža biaručy Biełarusy ŭ Polskaj Dziaržavie vykidajuć što-hod bolš-mienš **20 miljonaŭ zł.** A siańnia 20 miljonaŭ heta vialikaja suma. Niachaj-by choć čaćviortuju častku hetych hrošaŭ puścili my na kulturnuju biełaruskuju pracu, na svaje knižki, na hazety, na arhanizavańnie kooperatyvaŭ, škołaŭ... Jakuju-ž sapraŭdy zrabili-b vialikuju rabotu.. A tak, jak było ŭžo skazana, rujnujem sami siabie... Zarablajuć-ža na hetym karčmary i manapol.

Cikava, dumaju, budzie tut padać, što ab kureńni havoryć viedamy vienski prafesar Frankl Hochwart*)— lekar—specyjalist ad nervovych chvarobaŭ.

— Praf. F. Hochwart, śćvierdziŭ u 1.500 kurcoŭ voś što: biazsonnaść, nienaturalnuju ŭražlivaść, bol hałavy, nieapraŭdanuju tryvohu, asłableńnie pamiaci, kvołaść dumki, asłableńnie słuchu, zabureńni ŭ zmysłach: uzroku, smaku, niuchu, tytuniovuju ślapatu i asłableńnie płocievych vorhanaŭ. Jako-

*) Viestku hetu padaju pavodle „Відроджэньня"— orhanu ukrainskaha procialkaholnaha i procitytuniovaha ruchu— № 1 za 1937 h.

ju atrutaju jość nikatyna, katoruju kurcy ŭciahvajuć u siabie kuračy papiarosy, pakazvaje fakt, što lekar moža na receptu jak najbolšuju dozu zapisać: opijumu — 150 milihramaŭ, marfiny — 30 milihramaŭ, a nikatyny 3 milihramy. Ŭ aptekach nikotyna pierachoŭvajecca pad „dvama zamkami,“ jak vielmi niebiaśpiečnaja atruta. —

Ci-ž zapraŭdy možna paśla hetaha havaryć, što kureńnie nia škodzić i ci varta kuryć?...

Nia lepšyja, a jašče horšyja vyniki daje ŭžyvańnie alkaholu. Ŭsie hutarki ab tym, što alkahol raźviesialaje, hreje, daje apetyt, pabudžaje da pracy, abo lečyć — abmyłkovyja, zmanlivyja i, jak ćvierdziać lekary, nia majuć ničoha supolnaha z sapraŭdnaj medycynaj. Dziela taho słušna nazyvajuć alkahol zhubaj ludziej. A vialiki dziejač i vučony, prezydent Čechasłavacyi, T. G. Masaryk tak skazaŭ: „Alkahol — heta vorah sacyjalnaj roŭnaści j palityčnaj svabody. Pryčyniajecca da niavoli adnych i da biasprykładnaha vyzysku druhich.“

Niachaj ža słovy hetaha vialikaha českaha henija skranuć našu adstałaść u baraćbie za ćviarozaść, za toje, kab nia hubili my siabie, hrošaŭ i zdaroŭja nie marnavali, a kiravali ich na spravy karysnyja, jak asabistyja, tak i hramadzkija.

*Małady abstynent.*

## Васеньняя ноч.

*(Абразок з жыцьця).*

„Как дело убийства,
как совесть тирана,
осенняя ночка темна.“

Так, цёмная васеньняя ноч. Асабліва цёмная тады, калі неба хмурнае, бязмесячнае. Аднэй раннай цёмнай васеньняй ночы, павячэраўшы ды ўзяўшы радзюжку накрыцца, пайшоў я пад павець спаць. Ночы былі йшчэ цёплыя, а пад павецьцю было ў нас трохі саломы, што асталася пасьля малацьбы жыта на насеньне. Паваліўся я і хутка заснуў. Але неяк калягадзіны 11-12 прачнуўся. Чую — нехта йдзе на наш двор. Вышалупіў я вочы, гляджу і слухаю. Паволі крокі зьбліжаліся да паветкі.

— Хто тут? — пытаю.

— Я.

Па голасе пазнаю, што гэта за я і далей пытаюся:

— Чаго-ж ты тут лазіш ноччу?

— Ціха! Я хачу тут каля цябе паляжаць трошкі, мяне, ведаеш, ловяць, я ўцякаю.

— Ну, што-ж, лажыся, месца хопіць — адзываюся. Паваліўся ён побач мяне — гляджу, а ў ягонай руцэ вялікі нож.

— Знаеш што? — кажа ён паляжаўшы. — то-ж я магу тут цябе зарэзаць.

— Вось дзіва сказаў — пэўне што можаш. Ноч, ды яшчэ такая цёмная.

Ляжыць мой хлапец, маўчыць. А мне неяк кепска стала. Паляжаў я йшчэ трохі, ды ўстаў. Выйшаў з-пад паветкі — ступіў колькі шагоў уздоўж двара — аж чую, хтось сунецца ізноў на наш двор. Суне проста на мяне. Падыйшоў — гляджу — недалёкі сусед. У руцэ сякера.

— Нікога тут няма?

— Не, няма.

— Гм — а тож хтось пайшоў на ваш двор. — Дзе ён мог дзецца?

— А што тут такое? — кажы.

— Ат — няма калі.“ Сусед завярнуўся і пайшоў. Хвілінку пачакаўшы начную ціш прарэзаў лёгкі сьвіст: мой начлезьнік устае і адзываецца да мяне:

— Дык ты-ж глядзі, нікому не кажы, што я тут быў, ды што ты мяне тут бачыў.

— А, йдзі сабе, патрэбны ты мне.“

Ён пайшоў. А я пасунуўся за ім. Мяне брала цікавасьць.— На другім баку вуліцы стаяў другі хлапец. Пачалі яны ціха радзіцца. Па голасе пазнаў я друга. Раптам сьціхлі. Пачуліся шагі трэцяй асобы. Я прытуліўся да плоту.

Хлопцы кінуліся на другі бок вуліцы, якраз пад мой плот і прылеглі ў рове. Шагі набліжаліся, шоў той самы сусед. Ішоў ужо да хаты, нікога не знайшоўшы. Хлопцы сьціхлі. Калі сусед скіраваўся на свой двор і за ім стукнулі дзьверы яго сяней—тады хлопцы падняліся, выругаліся пад яго адрэсам і пасунуліся ўздоўж вёскі.

І нашто і чаго воўкам глядзець аднаму на другога, ды з нажамі і сякерамі сачыць.. Эх доля... Эх жудасьць... Калі-ж згінеш і прападзеш ты!...

*П. З.*

## 100-я ўгодкі сьмерці А. Пушкіна.

Сёлета 11 га лютага мінула 100 год ад дня сьмерці найвялікшага расейскага паэта Аляксандра Пушкіна. Памёр ён у 1837 г. у маладым веку ад ранаў у дуэлі (паедынку) з афіцэрам Дантэсам. Паэт гэты, хоць з паходжаньня па бацьку выводзіўся з роду абісынскага, быў аднак найвялікшым сынам расейскага народу, а ягоныя творы, як „Евгений Онегин“ і іншыя здабылі славу для Расеі на цэлым сьвеце.

100-я ўгодкі сьмерці А. Пушкіна паміналі ўсюды ўсе, дзе толькі дайшлі ягоныя творы. Найбольш-жа ўрачыста ў Савецкай Расеі і там дзе ёсьць расейскія эмігранты.



U Hišpanii fašyšysty adbili ŭ uradaŭcaŭ vialikaje partovaje miesta Malagu, jakuju bačym na žnimcy. Zatoje kala Madrytu ŭradavyja siły pačali što-raz macniej bić paŭstancaŭ.

## „Білорусь і її молодь“.

Пад гэткім назовам у №№ 1 і 2 часапісу украінскае моладзі „УКРАІНСЬКЕ ЮНАЦТВО“ друкаваўся сёлета артыкулрэпортаж рэд. Б. Ганчэрюка, каторы ў канцы мін. году быў у Вільні, адведаў нашую рэдакцыю і напісаў названы артыкул аб Беларусі і беларускай моладзі. Артыкул гэты напісаны ў духу прыхільным для беларускае моладзі і бязумоўна прычыніцца да бліжэйшага пазнаёмленьня украінскае моладзі з беларускай. Зацесьніць ён так-жа нашы добрасуседзкія, братнія адносіны на карысьць адраджэньня нашых народаў.

## Biełaruskaja prablema ŭ presie polskaje moładzi.

Treba ščvierdzić, što z pačatkam novaha 1937 hodu biełaruskaja prablema ŭ Polskaj Dziaržavie znajšła davoli šyroki rozhałas. I kali ŭ 1936 hodzie, paminajučy zakrytyja časapisy „Poprostu" i „Kartu", čuli my tolki hałasy endekaŭ. Vasiutynskaha, Giertycha i biełarusajeda Cat-Mackieviča, katoryja machali biełarusam pad nos asymilacyjaj, to sioleta heta sprava vyhladaje krychu inačaj. Sioleta ŭ polskim hramadzianstvie biare haru ŭžo imknieńnie nie da asymilacyi, a da ciesnaha źviazańnia Biełarusaŭ z Polskaj Dziaržavaj takimi, jakimi jany jość. Pry tym možna spatkać tak-ža hałasy polskich demokrataŭ u abaronie Biełarusaŭ i damahańni biełaruskich škołaŭ. Z pryjemnaściu taksama adznačym, što zahavaryła ab hetym i maładoje polskaje pakaleńnie.

Voś naprykład, 15.I.37 ŭ Vilni pačaŭ vychodzić časapis starejšaj polskaj skaŭckaj moładzi „NAPRZEŁAJ", u № 1 katoraha znachodzim, miž inšym, artykuł A. Kaminskaha, u jakim jon vystupaje suproć endeckich asymilatarskich namieraŭ adnosna Biełarusaŭ. № 2 hetaha časapisu za m-c luty skanfiskavany, miž inšym za artykuł ab Biełarusach i ab bieł. kulturnaj pracy.

U № 4 (9) z 14.II.37 „TPYBUNY MŁODYCH" — orhanu maładych polskich sacyjalistaŭ — znachodzim artykuł ab analfabetyźmie, dzie miž inšym skazana: „Likvidacyja hałoŭnych centraŭ analfabetyzmu ŭ Polščy moža nastupić tolki praz razbudovu na Kresach šyrokaj sietki pačatkavych škołaŭ z ukrainskim i biełaruskim jazykom navučańnia". Tam-ža ŭ ahladzie presy jość tak-ža zaciemka z pieradrukam z № 1 „Šlachu Moładzi" p. n. „Biełaruś i Katalonija". Zakančeńnie hetaje zaciemki skanfiskavanaje...

„BUNT MŁODYCH" (№ 2 (116) za 1937 h.) — orhan maładych polskich kanservatystaŭ — źmiaściŭ artykuł Adolfa Bocheńskaha ab aktualnaści „idei Jagielońskiej", u jakim hety vydatny małady polski publicyst, miž inšym, hetak piša: „Zrazumiejma, što ani Litvin, ani Ukrainiec, ani Biełarus nia maje najmienšaje achvoty stacca Palakom i ŭšanujma hetu ich volu"... Dalej-ža, abhavarvajučy patrebu normalizacyi adnosinaŭ miž Palakami, Biełarusami, Litoŭcami i Ukraincami p. A. B. dachodzić da vysnavu, što: „Tolki praz realizacyju pryncypu: „Ničoha ab ich biaz ich", možam dajšci da realizacyi našaha hałoŭnaha kliču: „Ničoha ab nas biaz nas"...

Hetyja hałasy — heta biazumoŭna vialiki krok napierad u polska-biełaruskich adnosinach, tym bolš što jašče nia tak daŭno, bo tolki ŭ miesiacy žniŭni 1936 h., na zaklik „Šlachu Moładzi" da polskaje demokratyčnaje moładzi, kab vyskazałasia ŭ spravie asymilatarskich metadaŭ Cat-Mackieviča i biełaruskaje škoły, nichto i pary z huby nia puściŭ.—Važna heta tak-ža i dzieła taho, što padobnyja hałasy čutny byli ŭ Sojmie z vusnaŭ h i e n. L. Ž e l i h o ŭ s k a h a i pasłanki P e ł č y n s k a j, kataraja 17 h. m-ca z sojmavaj trybuny horača vystupała suproć pieraškodaŭ u kulturnaj pracy dla Biełarusaŭ i navat u abaronie spynienaj „Biełaruskaj Krynicy".

Treba tak-ža adciemić, što za ŭnormavańnie polska-biełaruskich adnosinaŭ vystupaŭ na špaltach „BIULETENIU POLSKA-UKRAINSKAHA" (№ 5 z 31.I.37) vydatny polski publicyst red Vł. Bončkoŭski. Kali-niekali bolš-mienš prychilna ab biełaruskaj spravie pišuć „Dziennik Popularny", „Kurier Powszechny" i inš.

Nia hledziačy na toje, što ŭspomnienyja tut hałasy źjaŭłajucca hałasami adzinak pieradavoha polskaha hramadzianstva, to ŭsio-ž ciažka spadziavacca, što znajduć jany šyrejšaje padtrymańnie... Tymbolš, što ckavańnie polskich „hurrapatryjotaŭ", z katehoryi Cat-Mackieviča z vilenskaha abšarnickaha „Słowa", na Biełarusaŭ nia ścichajuć.

Mała ad Cat-Mackieviča adraśli i jahonyja hadunсy h. zv. maładyja „mocarstwowcy", katoryja niadaŭna pačali vydavać u Vilni „TRAKT BATOREGO". Jany nacyjanalny ruch biełaruski biaruć za adno z rucham kamunistyčnym, a pačatak biełaruskaj prablemy ličać ad utvareńnia Biełaruskaj Savieckaj Sacyjalistyčnaj Respubliki. Biednyja „mocarstvoŭcy".

Jany, vidać, historyju znajuć tolki ad tych hadoŭ, da jakich siahaje ichniaja pamiać. A toje, što Biełaruskaja Savieckaja Sacyjalistyčnaja Respublika paŭstała na hruzach zrujnavanaje balšavikami Narodnaje Biełaruskaje Respubliki, im niaviedama. Niaviedama musić im i toje, što ŭ 1918 h., na prykaz Maršałka Jazepa Piłsudzkaha sami Palaki, kab zdabyć prychilnaść Biełarusaŭ, pry svajoj armii arhanizavali biełaruskija vajskovyja addzieły, što Marš. J. Piłsudzki tady-ž vydavaŭ adozvy da Biełarusaŭ pabiełarusku, havoračy Biełarusam, što budzie vajavać „za naszą i waszą wolność". Nia viedama musić „mocarstwowcam" i toje, što kamunisty ŭ BSSR praz uvieś čas svaje ŭłady viaduć tam vostraje zmahańnie z nacyj‹nalnym biełaruskim ruchам...

Pisaninu „mocarstvoŭcaŭ" sapraŭdy možna tolki chiba apraŭdyvać niaviedańniem, bo niemahčyma dapuskać, kab u maładych ludziej sumleńnie było ŭžo tak skryŭlena, a vočy zaśleplenу i poŭnyja strachu, što aprača kamunizmu bolš ničoha nia bačać.

*j. n.*

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

*Др. Ст. Грынкевіч*—**У братоў украінцаў.** Выданьне Беларускай Кнігарні „Пагоня". Вільня 1937 г. Бач. 88. Фарм. 8⁰. Цана 50 гр.

Кніжка гэта зьяўляецца модным цяпер рэпортажам (апісаньнем) падарожы ведамага беларускага дзеяча др. Ст. Грынкевіча ў Львоў і адведзінаў там украінскіх дзеячоў, арганізацыяў, фабрыкаў і розных установаў. Напісана вельмі жыва, у прыхільным тоне для братняга нам украінскага народу. Часткава кніжка гэта была друкавана ў 1936 г. ў „Бел. Крыніцы". Апісаныя др. Ст. Грынкевічам жыцьцё і праца украінцаў могуць і павінны быць прыкладам у працы для беларусаў над адраджэньнем свайго Беларускага Народу. Дзеля гэтага пажадана, каб кожны малады беларус кніжку гэну прачытаў.

*Ks. Dr. J. Rešeć* — **Światyja.** Knižka I. Biblijateka „Chryścijanskaj Dumki" № 24. Lvoŭ - Vilnia 1937. Bač. 124+IV. Farm. 8⁰. Cana 75 hr.

Ad daŭžejšaha ŭžo času biełaruski katalicki časapis „Chryśc. Dumka" drukavaŭ na svaich bačynach pryhoža apracavanyja Ks. dr. J. Rešaciam žyćciapisy roznych katalickich śviatych. Voś-ža vydaviectva hetaha časapisu, sabraŭšy 20-cać hetkich žyćciapisaŭ, pastarałasia dla ich kaścielnuju aprobatu (cenzuru) i, papiaredziŭšy adpaviedniaj pradmovaj, vydała asobnaj knižkaj p. n. „Światyja", jak tom pieršy. Praca Ks. dr. J. Rešacia asabliva cennaja dla biełarusaŭ-katalikoŭ.

*Taras Hušča* — **Sceničnyja twory:** Antoś Łata—sceničny tvor u dvuch aktach i Na darozie žyćcia - sceničny abrazok u adnym akcie. Vydańnie druhoje Teatralnaj Knižnicy. Bač. 32. Farm. 16⁰. Cana 50 hr.

Pieršaje vydańnie hetaje knižki vyjšła ŭ śviet u 1917 h. ŭ Miensku. Da nas jaho dajšło vielmi mała, tak što nazvanyja tvory našaha vialikaha Tarasa Huščy — Jakuba Kołasa byli badaj zusim niaznanyja, choć žjaŭlajucca vielmi cennymi i aktualanymi. Dziela taho dobra, što Teatralnaja Knižnica ich vydała i što ciapier budzie mahčymaść z imi paznajomicca šyrejšym masam.

„Antoś Łata" — heta mocny abraz z sialanskaha žyćcia ŭ karčmie, katory žyva pakazvaje zhubnaść harełki ŭ žyćci ludziej i patrebu zmahańnia z pryvyčkaj pićcia jaje. Tvor u našaj litaratury sapraŭdy redki, a vielmi patrebny.

Sceničny-ž tvor „Na darozie žyćcia" žjaŭlajecca pryhožym, hłybokim dumkaj, hodnym navat da pastanoŭki na biełaruskija narodnyja śviaty, symbaličnym abrazkom ab Biełarusi.

Da pastanoŭki na scenie abiedźvi pjeski vielmi lohkija.— Słovam, knižki duža cennyja i cikavyja.

*Z. Bojdacki.*

### Nie dali dazvołu na biełaruskuju spektakl-viečarynu.

Žodziški, Vialejskaha pav. Choć našyja kulturna-aśvietnyja arhanizacyi źlikvidavanyja, biełaruskaja moładź adnak bieznadziejna ruk nie apuščaje i razumieje, što raźvićcio biełaruskaj kultury, aśviety zaležyć tolki ad tych ci inšych adnosinaŭ da hetaj spravy samoha narodu. Dziela hetaha pastanaviła zładzić na dzień 2.II sioł. ŭ v. Sačyniaty, Žodzišnaj voł., ad imia hram. M. Maroza spektakl-viečarynu z nastupnaj prahramaj: 1. „Žbiantežany Saŭka", 2. „Konski partret" — Rodzieviča, 3. Deklamacyi i 4. Skoki.

U hetaj spravie, nia hledziačy na 30-cihradusny maroz, jeździŭ u Vilejku, za 40 kilametraŭ, u Starastva prasić dazvołu biełaruski student K. Č. Starasta adnak dazvołu ńia daŭ, bo prahrama viečaryny była vyklučna biełaruskaja. Dazvoł možna było-b atrymać tady, kali-b arhanizatary zhadzilisia na varunak Starasty, h. zn kab sarhanizavali spektakl miašany i adyhrali adnu pjesku biełaruskuju, a druhuju polskuju. Hetaha varunku arhanizatary nie pryniali i viečaryna nie adbyłasia. Nia hledziačy na heta, achvota našaj moładzi da pracy na karyść biełaruskaha narodu jość vialikaja.

*Abservatar.*

### Што робіць „Коло Рольнічэ".

Пружана. У нас ёсьць польскае „Кола Рольнічэ". Арганізацыя гэта аднак з землязробствам бадай нічога супольнага ня мае, затое час-ад-часу ладзіць „танцулькі", якія часта канчаюцца неспакойна. Гэтак было і 7.II сёл.

Беларуская моладзь павінна шукаць сабе помачы і разрыўкі ў сваіх беларускіх часапісах і кніжках.

*Малады беларус.*

### Patreba biełaruskaje kulturnaje pracy na vioscy.

v. Hajnin, Miadźviedzickaj voł., Baranavickaha pav. U lutym miesiacy ŭ nas adbyŭsia źjezd miascovych h. zv. „przodowników wiejskich", u časie jakoha čytalisia referaty na temu: „Moj asiarodak i jaho patreby". Blizu ŭsie nazyvali siabie i svaje asiarodki biełaruskimi i jak patreby stavili pašyreńnie viedy i kultury ŭ duchu i movie biełaruskaj. Na 26 asob adzin tolki niejki Špak zaličaŭ siabie i svoj asiarodak da palakoŭ i hetym vyklikaŭ ahulnaje ździŭleńnie.

Sapraŭdy patreba i karyść biełaruskaje kulturnaje pracy adčuvajecca vialikaja. Prytym treba ścvierdzic, što tam, dzie biełaruskaja kulturnaja praca pravodzicca, tam ludzi pačynajuć žyć bolš kulturna. I naadvarot, tam, dzie biełaruskaja kulturnaja praca zatamavanaja, pašyrajecca pjanstva, ihra ŭ karty i h. d. U nas jarkim prykładam hetaha jość v. Žarabkovičy.

Da polskich arhanizacyjaŭ našy sialanie i moładź nia majuć davieru i da ich nia chilacca. Kali-ž dzie i zapisvajucca, dyk robiać heta niaščyra.

*Svoj.*

### I ŷ Сакольшчыне беларусы хочуць свае школы.

в. Гаркавічы, Апэльскай вол., Сакольскага пав. Нашы сяляне выпісалі дэклярацыі на беларускую школу і думалі, падпісаўшы іх, падаць школьным уладам, але пасьля на сходзе прачыталі ў інструкцыі, што ў Сакольскім павеце гэткім спосабам дамагацца беларускае школы ня можна, дык тымчасам на гэтым усё асталося. Але аб беларускай школе думаць не перасталі. Чытаем мытаксама беларускія кніжкі і газэты.

*Ягаркавіцкі.*

## CHRONIKA

### Z biełaruskaha žyćcia

**Vydavać novuju biełaruskuju palityčnuju hazetu dalej zabaraniajuć.** Paśla spynieńnia „Bieł. Krynicy“, zabarony vydavać „Narod. Krynicu“, a paśla „Bieł. Vieča“, była roblena sproba vydavać „Sialanskuju Hazetu“. Ale i na hety raz Starastva rabić heta zabaraniła, padajučy pryčyny, što „ŭžo złožana paviedamleńnie ab bieł. časapisie z padobnym nazovam“. Dasiul adnak nijakaja novaja biełaruskaja hazeta nia vyjšła

**Revizii.** 10.II siol. u pamieščaniach redakcyi „Wiadomości Białoruskie“, u staršyni BNK-tu inž. A. Klimoviča i staršyni BNA J. Paźniaka palicyja rabiła reviziju, prytym zabrała pavialač da adbivańnia drukaŭ.

**Lekcyi Ks. Ad. Stankieviča.** 31.I siol. ŭ Vilni ŭ zali Biełaruskaha Narodnaha Abjednańnia (Zavalnaja 1) Ks. Ad. Stankievič pračytaŭ cikavuju lekcyju na temu: „Mahnušeŭski i biełaruskaje nacyjanalnaje adradžeńnie“. 7.II tam-ža Ks. Ad. St. mieŭ pračytać lekcyju ab praf. M. Babroŭskim i biełaruskim adradženskim ruchu. Adnak Vil. Starastva, paklikajučysia na „względy bezpieczeństwa publicznego“, čytać hetu lekcyju zabaraniła.

**Nie zaćvierdzili Katalickaj Akcyi dla Biełarusaŭ.** Biełarusy kataliki ŭ Vilni ŭ min. hodzie sarhanizavali Kat. Akcyju. Nia hledziačy adnak na toje, što arcyb. Jałbžykoŭski arhanizacyju hetu bahasłaviŭ, Archid. Instytut Kat. Akcyi Katalickaj Akcyi dla Biełarusaŭ nie zaćvierdziŭ. Cikava, što hetyja katalickija... dziejačy... sabie dumajuć hetak pastupajučy i da čaho jany iduć. — Oj, nia dobra robiać!...

**Novyja biełaruskija lekary.** Sioleta skončyli medycynu na Vilenskim Universytecie i złažyli ŭžo lekarskuju prysiahu dva maładyja biełarusy: V. Tumaš i V. Vojtenka. Vitajučy ich, žadajem płodnaj pracy na biełaruskaj adradženskaj nivie!...

**Sudy.** 25.II siol. Vilenski Haradzki Sud razhladaŭ spravu apošniaje kanfiskaty i spynieńnia „Biełaruskaje Krynicy“. Abvinavačanym za hetu kanfiskatu byŭ red. Ad. Dasiukavič. Prysud u hetych spravach budzie abvieščany 27.II. 1937 h.

9.II ŭ tym-ža Sudzie mieła razhladacca sprava mgr. J. Šutoviča, abvinavačanaha za adnadnioŭku: „Za rodnuju škołu!“ Sprava adłožana dziela dopytaŭ śviedkaŭ.

**Kanfiskaty.** Administracyjnyja ŭłady m. Vilni niadaŭna skanfiskavali apaviadańnie Uład-Inickaha: *Son Haŭryły* i zbornik vieršaŭ M. Vasilka: *Шум баравы*. Abiedźvie hetyja knižki vyjšli ŭ 1929 h.

**Schody.** 14 II.37 adbyŭsia ahulny hadavy schod T-va „Biełaruskaje Katalickaje Vydaviectva,“ na jakim paśla pryniaćcia da viedama spravazdačy z dziejnaści ŭradu, vybrany novy ŭrad, skład jakoha astaŭsia stary, z vyniatkam Ks Hadleŭskaha, na miesca katoraha vybrany Ks. J. Hermanovič.

U hety-ž dzień u Vil. Biełaruskaj Himnazii adbyŭsia ahulny hadavy schod Hurtka Pryjacielaŭ Biełaruskich Skaŭtaŭ.

**Biełaruskaja viečaryna ŭ Varšavie.** Arhanizacyjny Kamitet Biełaruskaha Kulturnaha T-va ŭ Varšavie, 6.II siol., u zali Varš. Filharmonii ładziŭ bieł. viečarynu. Šyrejšuju spravazdaču z hetaje viečaryny padamo ŭ nastupnym № 3 „Šlachu Moładzi“.

**Rekolekcyi** dla biełarusaŭ-katalikoŭ ŭ Vilni ŭ kaściele śv. Mikałaja pravodziŭ sioleta ad 25 da 28.II. ks. Superior J. Hermanovič.

**U biełaruskich studentaŭ.** 30.I u Bieł. Stud. Sajuzie stud. V. Papucevič čytaŭ referat ab Šafnagielu. 6.II Bieł. Stud. Sajuz ładziŭ z Litoŭskim i Ukrainskim Studenckimi Sajuzami supolnuju hadavuju VIII-ju viečarynu (bal).

## Nacyjanalnyja śviaty bratnich nam narodaŭ

22-ha studnia sioleta Ukraincy śviatkavali 19-tyja ŭhodki abvieščańnia Niezaležnaści Ukrainskaje Narodnaje Respubliki.

16-ha lutaha Litoŭcy śviatkavali 19-tyja ŭhodki abvieščańnia Niezaležnaści Litvy. U hety samy dzień usiudy ŭ litoŭskich kaściołach adbyvalisia žałobnyja nabaženstvy za spakoj dušy śv. p. dr. J. Basanoviča, patryjarcha litoŭskaha nacyjanalnaha adradžeńnia, ad śmierci jakoha minuła sioleta 16.II dziesiać hod.

## USIAČYNA

— Niadaŭna ŭ Polščy adbylisia kanhresy „Stronnictwa Ludowego" i „Polskiej Partyi Socyjalistycznej". Charakterna, što abiedźvie hetyja partyi vyskazalisia suproć supracoŭnictva z kamunistami ŭ „narodnym froncie", a taksama pročiŭ fašyzmu. — 21.II pałkoŭnik Koc — staršynia „Związku Legjonistów" — abvieściŭ prahramu novaje palityčnaje partyi, jakaja maje padtrymlivać urad. Kirunak hetaj partyi nacyjanalistyčny.

— U pałavinie m-ca lutaha sioleta adviedaŭ Litvu, Łatviju i Estoniju saviecki maršał Jehoraŭ. U hetym-ža časie ŭ Polščy naściŭ niamiecki premjer hien. Goering.

—U Finlandyi adbylisia vybary novaha prezydenta. Vybranym akazaŭsia premjer Kalijo—rodam i z pierakanańnia sielanin.

—Hitler dalej havoryć hromkija pramovy, damahajecca kalonijaŭ dla Niamieččyny, adkazvajecca ad Versalskaha Traktatu, a zaklikaje i n š y j a dziaržavy spraviadliva vyrašać u siabie spravy nacyjanalnych mienšaściaŭ.

— Abisyncy dalej baroniacca ad italijanskaj navały. Asabliva zaŭziata baronicca paŭdzionnaja častka hetaj krainy, dzie 10,000 dobra ŭzbrojanych vajakaŭ, na čale z Ras Desta'm dajucca dobra ŭznaki italijancam. Što italijancam u Abisynii nianadta jdzie ŭsio hładka, śviedčyć tak-ža abvieščany italijancami śpis, pavodle jakoha ŭ m-cy studni sioleta ŭ Abisynii zhinuła 8 italijanskich aficeraŭ, 2 łatunoŭ, 2 padaficeraŭ, 50 žaŭnieraŭ i 14 fašystaŭskich partyjcaŭ. — 19.II u Addis-Abebie abisyncy kinuli niekalki bombaŭ na italijanskaha vice-karala hien. Grazia-nia'ha, askołkami katorych byŭ jon mocna ranieny. Pry hetym zhinuła niekalki čałaviek i ciažka ranieny italijanski hien.Liotta. Paśla hetaha italijancy razstralali mnoha abisyncaŭ i heta vyklikała jašče bolšyja prociŭitalijanskija zabureńni.

—19.II u Maskvie nahła pamior najbližejšy pryjaciel Stalina kamisar Ordžonikidze.

— Norvežski łatun adkryŭ na Ładavitym Paŭnoč. Akijanie novuju ziamlu.



Paŭnočnuju Ameryku naviedała strašennaja pavodka, katoraja pazbaviła bolš 500 tysiač ludziej strachi nad hałavoj i pryniasła vializarnyja straty. U časie hetaje pavodki zhinuła bolš 500 asob. (Na źnimcy vidać adno z zalitych amerykanskich miestaŭ).

# PAŠTOVAJA SKRYNKA

P. Łaštaŭcy: Atrymali, dziakujem, nadrukujem u nastupnym numary, bo ŭ hety było ŭžo zapozna. Pryvitańnie!

M. Galasieviču: Vieršy słabyja i da druku niepadchodziać, piara adnak nia kidajcie, dy paprobujcie pisać prozaj. Dla abznajamleńnia z biełaruskaj litaraturaj vysyłajem Vam 5 bieł. knižak.

J. Vilkoŭščyku: Za vierš i dobryja słovy padziaka. Prosim pisać čaściej, bo toje što prysłali, jak bačycie, drukujem. Pryvitańnie!

P. Ramančuku: Da druku ničoha nie padchodzić. Papravić niemahčyma. Radu našu prosim pryniać pad uvahu.

V. Simančuku: Vieršy słabyja i da druku nie padchodziać. Radzim paznać lepš biełaruskuju hramatu, čytać bolš pryhožych bieł. knižak i probavać pisać prozaj.

Svajmu: Za piśmo i karespandencyi padziaka. U mieru mahčymaści ŭsie vykarystajem. Pryvitańnie!

Bordasu: Prysłanyja apaviadańni da druku nie padchodziać, bo i temy ich nie padchodnyja i apracoŭka słabaja. Piara nia kidajcie. Pieradusim paznajcie dobra biełaruskuju hramatu i probujcie pisać apaviadańni karacieńkija, a paśla i doŭhija.

А. Чэмяру: За мілыя словы і запамятку шчырая падзяка. Закліку на жаль, з прычын цэнзуральных, зьмясьціць ня можам.

М. Брысу: З прысланых матар'ялаў будзем старацца карыстаць. Вершы слабыя. Больш працуйце над сабой і над вершамі і як найбольш чытайце. Ці атрымліваеце цяпер акуратна „Шлях Моладзі."?

Васілёву: Вершы слабенькія. Трэба раней пазнаць добра беларускую грамату, чытаць беларускія кніжкі і тады прабаваць пісаць. Грытым пішыце карацей нерасцягваючы.

Я. Каліне: Апавяданьне слабое, але пяра ня кідайце, больш працуйце над сабой і пішыце а магчыма, што будуць і рэчы лепшыя.

Грышцы Бядульскаму: Ваш артыкул ня можам надрукаваць, хоць шмат ёсьць у ім матар'ялаў цікавых, дзеля таго, што Вы ў гэтым артыкуле названым: „Вялікадныя абрады і вераваньні Беларусаў", пішаце аб абрадах, на Падкарпацьці і іншых краінах, якія беларускімі ня можна назваць. І так цяжка аддзяліць дзе ў Вас абрады Беларусаў, а дзе іншых народаў. Добра было-б, каб Вы апісалі выключна вялікодныя абрады Беларусаў.

Саве: Апавяданьні гэтым разам аказаліся нажаль слабаватымі. Пяра аднак ня кідайце, бо здольнасьці да яго маеце, толькі трэба больш працаваць. Тэмы выбірайце таксама добрыя. Першыя няўдачы няхай Вас не зражаюць.

Я. К.: Вершы слабенькія. Пры тым верш з 1931 г. вельмі падобны да верша аб вясьне Я. Купалы. Старайцеся лепш іх апрацаўваць, а ахвотна будзем друкаваць.

Маладому Дубку: Адозва да моладзі і многа вершаў ня пройдуць праз цэнзуру. Надрукуем толькі два вершы. Аповесьць „Цярпеньні і мучэньні" таксама ня пройдзе праз цэнзуру. Пры тым яна для нас разьмерам не падходзіць. Апрацаваная яна слаба, акцыя расьцягнена і ня цікавая. За пісаньне большых рэчаў ня радзім Вам яшчэ брацца. Пішыце лепш кароткія апавяданьні і новэлькі з жыцьця беларускае вёскі.

ПАПРАЎКА: У прошлым № 1 „Шл. Мол." закульгала карэкта, дык аказалася многа памылак. Найбольш пацярпеў верш М. Машары: „Адказ на пісьмо ад Апалона" ў якім у 6 зваротцы ў 2 вершы пасьля слова „рытмаў" прапушчана слова „любім".



*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*

*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар Я. НАЙДЗЮК.